www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 32 (3875)

25 красавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Газета — чытачы

**У апошнія дні з кім толькі не вяла перамовы рэдакцыя газеты — з друкарняй, экспедыцыяй, якая развозіць газету па ўсёй краіне, "Белпоштай", "Белсаюздрукам"... Хацелася да мінімуму скараціць перарыў у выхадзе "Народнай Волі" з нагоды Радуніцы і святаў. На жаль, знайсці паразумення не ўдалося. Таму вымушаны паведаміць, што наступны нумар "Народнай Волі" выйдзе толькі 3 мая.**

**Да сустрэчы, шаноўныя сябры!**

# 26 красавіка 1986 года ў выніку непрадуманых дзеянняў дзяжурнай змены пры наяўнасці хібаў у канструкцыі рэактара і станцыі ў цэлым адбылася катастрофа на чацвёртым энергаблоку ЧАЭС

***

*У выніку выбуху ў паветра было выкінута ў 400 разоў больш радыеактыўных рэчываў, чым пры бамбардзіроўцы Хірасімы.*

*У момант выбуху загінулі два работнікі станцыі. Больш за 30 чалавек памерлі на працягу першых трох месяцаў пасля аварыі.*

*Для ліквідацыі наступстваў мабілізавалі больш за 600 тысяч чалавек.*

*Перад аварыяй у рэактары чацвёртага блока знаходзілася 180—190 тон ядзернага паліва. Паводле некаторых ацэнак, у навакольнае асяроддзе было выкінута ад 5 да 30 працэнтаў ад гэтай колькасці.*

*На тэрыторыю Беларусі прыпала 70% усяго радыеактыўнага забруджвання. У эканамічным разліку страты краіны складаюць прыкладна 235 мільярдаў долараў ЗША.*

*У зоне забруджвання апынулася каля 2 млн 100 тыс. чалавек (25% беларускага насельніцтва).*

*У выніку аварыі з сельскагаспадарчага абароту было выведзена каля 5 млн га зямлі.*

*4 мая 1986 г. беларускае кіраўніцтва прыняло рашэнне аб адсяленні насельніцтва з 30-кіламетровай зоны вакол ЧАЭС, у першую чаргу з Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў. Гэта забароненая для свабоднага наведвання тэрыторыя, якая найбольш пацярпела пасля катастрофы.*

*З 30-кіламетровай зоны былі эвакуіраваны больш за 115 тысяч чалавек.*

*Да канца года ў чыстыя месцы было адселена 27,7 тыс. чалавек, а ва Украіне, дзе плошчы забруджвання былі значна меншыя, адсялілі каля 100 тысяч.*

*Зараз памеры зоны адчужэння вызначаны прэзідэнцкім указам "Аб Палескім дзяржаўным радыяцыйна-экалагічным запаведніку". У запаведніку праводзяцца навуковыя даследаванні, але аб адраджэнні тэрыторый пакуль не можа ісці і гаворкі.*

*На пачатак 2014 года колькасць насельніцтва, якое пражывае на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі, склала 1 млн 142,6 тыс. чалавек.*

***

*На забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу пражывала 801,3 тыс. чалавек, у тым ліку 149 тыс. дзяцей, у сельскіх населеных пунктах — 341,3 тыс. чалавек, з іх 65,9 тыс. дзяцей.*

***

*У зоне радыеактыўнага забруджвання на пачатак гэтага года знаходзілася 2 тысячы 393 населеныя пункты (28 гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу і 2 тыс. 302 сельскія населеныя пункты, у якіх пражывала насельніцтва), або 10,2% ад колькасці ўсіх населеных пунктаў рэспублікі.*

***

*Найбольш пацярпелымі тэрыторыямі ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з'яўляюцца Гомельская, Брэсцкая і Магілёўская вобласці.*

***

*У выніку перасялення жыхароў і паляпшэння радыеактыўнай абстаноўкі колькасць населеных пунктаў на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі за апошнія 20 гадоў скарацілася на 841, а колькасць насельніцтва, якое пражывае ў зонах радыеактыўнага забруджвання, — на 707,4 тыс. чалавек.*

*"Грынпіс" і Міжнародная арганізацыя "Урачы супраць ядзернай вайны" сцвярджаюць, што ў выніку аварыі памерлі дзясяткі тысяч чалавек.*

*Цэзій-137 і стронцый-90 маюць перыяд паўраспаду больш за 30 гадоў.*

*Больш за ўсё назапашваюць радыяцыю лясныя грыбы і ягады. Затым — малако, мяса (асабліва ялавічына).*

*Кожны год колькасць анкалагічных хворых у Беларусі расце прыкладна на 3 працэнты.*



## Анатоль ЗЭКАЎ
## 26 красавіка 1986 года

*Звычайны дзень,*
*ці ж вінаваты*
*хоць на імгненне ён у тым,*
*што стаў аднойчы чорнай датай,*
*каб ёй застацца назаўжды?*

*А самі ж мы ці вінаваты,*
*што мусім жыць у краі тым,*
*дзе выбухнуў бядой рэактар,*
*ўказаўшы шлях нам на клады?*

*Ці ж вінаваты ў тым бабулькі*
*і пасівелыя дзяды,*
*якім не возяць дзеці ўнукаў —*
*каб толькі далей ад бяды!*

*А хіба ж вінаваты дзеці,*
*што, не адведаўшы жыцця,*
*ужо зірнулі ў вочы смерці —*
*о, як ім многае няўцям!*

*А мой сусед*
*ці ж вінаваты*
*у той трагедыі, скажы,*
*што з імем грозным —*
*ліквідатар,*
*нібы з кляймом,*
*павінен жыць?*

*Ці ж вінаваты лес і рэчка*
*ці птушкі, рыбы і звяры*
*у тым,*
*што розум чалавечы*
*бяды бяздумна натварыў?*

*Даруйце ўсе,*
*каго я згадваў...*
*Мо запытаць хіба ў вятроў:*
*няўжо ніхто не вінаваты?*
*Ніхто ні ў чым?*
*Няўжо ніхто?*

**АКЦЫЯ**

## «Чарнобыльскі Шлях-2014»

**26 красавіка пройдзе традыцыйная акцыя "Чарнобыльскі Шлях". Збор абвешчаны на 16 гадзін на пляцоўцы каля кінатэатра "Кастрычнік" (Мінск). Затым шэсце пройдзе да плошчы Бангалор. Мітынг адбудзецца ў парку Дружбы народаў.**

**Паводле слоў арганізатараў, акцыя пройдзе пад лозунгамі *"Мы за бяз'ядзерны свет!", "Мы за ўстойлівую і бяспечную энергетыку!", "Мы за энергетычную незалежнасць!", "Не — АЭС! Не — вайне!"*.**

**КАМПЕТЭНТНА**



## Юрый БАНДАЖЭЎСКІ:
## «...Жорсткай будзе расплата»

*Былы рэктар Гомельскага медыцынскага ўніверсітэта, прафесар **Юрый БАНДАЖЭЎСКІ,** які вымушаны працягваць свае навуковыя даследаванні па чарнобыльскай тэматыцы за мяжой, распавёў "Народнай Волі", колькі яшчэ трагедыя будзе нагадваць беларусам пра сябе.*

— Галоўнае — не забываць, што ёсць такая бяда, — *кажа Юрый Іванавіч*. — Трэба памятаць тых, хто загінуў. Думаць, што будзе з жывымі.... Зараз у межах еўрапейскага праекта мы вывучаем ва Украіне ўплыў чарнобыльскай катастрофы на пацярпелыя тэрыторыі і, на жаль, нічога суцяшальнага сказаць не можам. Існуюць фактары, якія небяспечныя нават для наступных пакаленняў. Увогуле, Чарнобыль — вельмі складаная катастрофа ў плане ліквідацыі наступстваў і мае вельмі шмат цёмных плямаў, якія да гэтага часу не вывучаны. Трэба было з самага пачатку не хаваць праблему, а прыкладаць велізарныя намаганні, каб мінімізаваць наступствы. На жаль, гэтага не адбылося, і ў выніку загінула мноства людзей. Чым больш мы аддаляемся ад даты трагедыі, дасканала не вывучаем яе, тым больш жорсткай будзе расплата. Паверце, гэта не гучныя словы. Трагедыя для людзей не прайшла — яна працягваецца...

**— Беларускія ўлады стараюцца супакоіць насельніцтва, кажуць, што робіцца ўсё магчымае для ліквідацыі наступстваў аварыі, а плошча тэрыторыі, якая забруджана 137-м цэзіем, паступова змяншаецца...**

— Можна наогул усю тэрыторыю Беларусі аб'явіць чыстай зонай — але ад гэтага праблема не знікне. Можна сказаць, што няма забруджаных земляў, што не "свеціцца" прадукцыя адтуль, але гэта не значыць, што так яно і ёсць. Насамрэч усё куды складаней. Мая пазіцыя разыходзіцца з той версіяй, што агучваецца дзяржаўнымі чыноўнікамі. Я не раз казаў, што тыя радыяцыйна дапушчальныя нормы, якія ўстаноўлены дзяржавай, дазваляюць паступленне ў арганізм людзей значнай колькасці радыенуклідаў. Акрамя таго, далёкая ад ідэалу сістэма вызначэння радыенуклідаў у прадуктах харчавання. Ці ж не спектакль, калі бяруць радыяметр і водзяць зверху па прадуктах! Вызначаць колькасць радыенуклідаў у прадуктах трэба ў спецыяльных камерах са спецыяльным абсталяваннем. Толькі ў гэтым выпадку можна мець больш-менш дакладнае ўяўленне аб колькасці радыенуклідаў.

**— Ці могуць сёння вучоныя сказаць, колькі яшчэ беларусы будуць адчуваць на сабе наступствы Чарнобыля?**

— Наступствы трагедыі адбіліся ўжо на некалькіх пакаленнях, і гэта на самай справе — не мяжа. Негатыўныя працэсы ўздзейнічаюць на генетычны апарат. Цяжка нават сказаць, наколькі гэта страшна для наступных пакаленняў...

**— Юрый Іванавіч, зараз у Беларусі поўным ходам ідзе будаўніцтва новай атамнай электрастанцыі. Многія ўжо забыліся, што адбылося 28 гадоў таму? Ці апраўдвае мэта сродкі?**

— За Астравецкую АЭС мне балюча ўдвая, бо атамная станцыя будуецца побач з маёй малой радзімай — сам я з Воранаўскага раёна. І я цудоўна разумею наступствы гэтай атамнай індустрыі. Усё адаб'ецца і на навакольным асяроддзі, і на здароўі людзей. Ды і як так можна?! Сказаць: 28 гадоў таму нічога не здарылася, давайце будаваць палацы будучага. Дзікунства! У маёй галаве гэта проста не ўкладваецца! Я спачуваю сваім землякам, якія яшчэ адчуюць на сабе "мірны атам". Доказаў негатыўнага ўздзеяння на здароўе людзей нават добра працуючай атамнай электрастанцыі велізарная колькасць, што ўжо прызнана ва ўсім свеце. Гэта не шлях у будучыню. Відаць, чарнобыльская трагедыя нас нічому не навучыла...

**Алесь СІВЫ.**

**УЧОРА**

## Мясніковіч сходзіў на мюзікл

Прэм'ер-міністру паказалі фрагменты мюзікла "Дуброўскі", прэм'ера якога запланавана на 30 мая ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.

"Дуброўскі" — сумесны беларуска-расійскі праект, у якім заняты студэнты ўсіх кафедраў музычнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва. Музыку напісаў **Кім Брэйтбург**, лібрэта **Карэна Кавалерана**. У працы над пастаноўкай заняты амаль дзве сотні чалавек.

Міхаіл Мясніковіч азнаёміўся з ходам будаўніцтва спартыўна-культурнага цэнтра, які павінен стаць асноўнай сцэнічнай пляцоўкай БДУКМ і наведаў кафедру мастацтва эстрады, якую ўзначальвае заслужаная артыстка Беларусі **Ірына Дарафеева**.

## Атруціліся 17 чалавек

Надзвычайнае здарэнне адбылося ў басейне ліцэя №1 па адрасе праспект газеты "Звязда", 6а. У басейне праходзілі заняткі.

Як распавёў памочнік начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Віталь Дэмбоўскі**, усе пацярпелыя шпіталізаваны ў медыцынскія ўстановы, ім аказваецца неабходная дапамога.

Падрабязнасці і прычыны здарэння ўстанаўліваюцца.

**Аліна ВЕТРАВА.**

## Лукашэнку заклікалі вызваліць палітзняволеных

*Да кіраўніка Беларусі звярнулася швейцарска-нямецкая праваабарончая арганізацыя Libereco — Partnership for Human Rights.*

Як вядома, хакейны чэмпіянат свету стартуе ў Мінску 9 мая. У заяве праваабаронцаў адзначаецца, што цяпер у Беларусі адбываюць пакаранне дзевяць чалавек, затрыманых па палітычных матывах. Гэта экс-кандыдат у прэзідэнты **Мікалай Статкевіч**, праваабаронца **Алесь Бяляцкі**, а таксама грамадскія актывісты **Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Андрэй Гайдукоў, Эдуард Лобаў, Васіль Парфянкоў, Арцём Пракапенка і Яўген Васьковіч**.

Зняволенне па палітычных матывах з'яўляецца сур'ёзным парушэннем правоў чалавека, але *"гэтая праблема можа быць вырашана з дапамогай спецыяльнай амністыі"*.

Зварот да Лукашэнкі падпісалі ўпаўнаважаны па правах чалавека ўрада Нямеччыны **Крыстофер Штрасер**, дэпутаты бундэстага **Марылуіза Бек, Утэ Фінкх-Крэмер, Катрын Гёрынг-Экарт,** еўрадэпутаты **Марэк Мігальскі, Вернер Шульц** і іншыя палітыкі і грамадскія дзеячы.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## На Радуніцу — сонечна і без ападкаў

*Такі папярэдні прагноз зрабіў вядомы сіноптык Дзмітрый Рабаў.*

Увогуле, надвор'е на бліжэйшыя дні чакаецца добрае.

— *Антыцыклон QUINLAN прынясе ў большасць раёнаў спакойнае і камфортнае надвор'е,* — гаворыць сіноптык. — *Сонца, без ападкаў, толькі ў нядзелю па захадзе кароткачасовыя дажджы і навальніцы.*

Тэмпература сёння, 25 красавіка, ноччу +1...+7, па паўночна-ўсходняй палове замаразкі 0...-4, днём +13...+19. Па Мінску ноччу +1...+3, у ваколіцах горада слабыя замаразкі ад 0 да -2, днём +15...+17.

***У суботу*** ноччу +1...+7, па Брэсцкай вобласці да +10, па ўсходзе месцамі замаразкі ад 0 да -3; днём +16...+22. Па Мінску ноччу +2...+4, днём +17...+19.

***У нядзелю*** ўначы +3...+10, днём +17...+22, па захадзе дажджы, тэмпература паветра +13...+16. Па Мінску ноччу +4...+6, днём +18...+20.

Папярэдні прагноз на Радуніцу — без істотных ападкаў. Ноччу +5...+10, днём +18...+24.

**Вера ВІР.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Агрессия без границ

После развала СССР русский народ пережил шок и оказался в депрессии. По сути, он потерял огромную территорию. Более 20 миллионов соотечественников оказались за границей. Все его бывшие союзники в лице стран народной демократии, которых он поил и кормил в ущерб себе, вооружал, быстро развернулись в сторону Запада и сегодня вошли в Европейский Союз и НАТО. Россия уже этим была унижена. Ее перестали считать Великой державой. Однако во времена Б.Ельцина, когда Запад увидел его антикоммунизм, попытки заложить основы построения демократического общества, в его отношениях с Россией наступило потепление, которое, как казалось, окончательно растопило лед холодной войны. Россию приняли в клуб ведущих экономических держав G-7, который стал именоваться G-8. И не потому, что Россия, начав помалу восстанавливать свою экономику, достигла доли СССР в мировом рейтинге, а потому, что она, как страна, имеющая полный ядерный арсенал, оставалась военно-промышленным лидером, а значит, заметным геополитическим игроком, существенно влияющим на постсоветское пространство и на бывших союзников СССР.

Но отношения России с Западом стали меняться с приходом к власти В.Путина. Основной упор он сделал на восстановление вооруженных сил и на увеличение добычи нефти и газа, строительство трубопроводов, пытаясь сделать из России мировую энергетическую сверхдержаву. В определенной степени это ему удалось. Но ему не удалось поднять экономику страны до уровня развитых стран. Россия по этому показателю — не более чем среднеразвитая страна. Она значительно отстает от Запада в своем технологическом развитии и по уровню жизни населения в целом. В.Путин все дальше уходил от либеральных норм жизни. Отыскав лазейку в российской Конституции, он пошел на третий президентский срок. Его правление приобрело явно авторитарный характер.

В.Путин не хотел мириться со своим неравным положением в клубе развитых во всех отношениях стран. Не сумев стать вровень с ними экономически, не захотев разделять базовые западные демократические ценности — сменяемость власти, разделение и независимость ветвей власти, соблюдение прав человека и другие, он решил пойти другим путем. Стать на равных с Западом не путем экономического и политического сотрудничества с ним, а путем противостояния ему. Прежде всего через конфронтацию с США и НАТО. При его прямой поддержке верноподданных России режимов СНГ превратился в клуб президентов-автократов и диктаторов, которые узурпировали в своих странах власть и держатся за нее мертвой хваткой. На международной арене Россия прочно заняла место СССР и поддерживает самые диктаторские, а порой одиозные режимы. В ее друзьях числятся Китай, Венесуэла, Сирия, Иран, Зимбабве, Судан, КНДР. В.Путин поставил себе стратегическую цель — восстановить Российскую Империю. Для начала через вовлечение своих наиболее зависимых, а значит, и верных союзников — Беларуси, Казахстана, Армении в Таможенный и Евразийский экономический союзы. А дальше время покажет. И оно показало.

Русскому люду надоело находиться в приниженном положении. Более 20 лет, со времен распада Советского Союза, он жаждал реванша. Руководство России не смирилось с поражением в холодной войне, которое потерпел СССР. Но Россия не стала экономически притягательной для бывших союзных республик СССР, для бывших союзников по социалистическому лагерю. Грузия с приходом к власти М.Саакашвили четко взяла курс на Запад, на НАТО. Даже война с Россией 2008 года ее не остановила. И вот после Майдана туда повернула и Украина. Но Украина — не Грузия. Она имеет огромную по европейским масштабам территорию — свыше 600 тысяч квадратных километров, 45-миллионное население. А главное — достаточно мощный научно-производственный и оборонный потенциал, сформированный еще во времена СССР. Это в первую очередь ракетостроение. Днепропетровский завод "Южмаш", где созданы одни из самых мощных стратегических ракет "Воевода", которые стоят на боевом дежурстве в составе российской ядерной триады, ракеты "Зенит". Турбины для российского Росатома делаются в Харькове на предприятии "Турбоатом". На моторах знаменитой двигателестроительной фирмы из Запорожья "Мотор Сич" летают почти все российские вертолеты и многие самолеты. В Украине производят двигательные установки и для судов. Военно-транспортная авиация России накрепко связана с всемирно известным конструкторским бюро "Антонов". Судостроительный завод в Николаеве — единственный в СНГ, способный производить авианосцы типа "Адмирала Горшкова" — флагмана Северного флота России. Можно себе представить состояние В.Путина, да и всего российского руководства, если все эти технологии, включая секретные, отойдут в конце концов к НАТО!

(Окончание на 5-й стр.)

ДАТА



# Конституционный суд: начало и конец

*Время неумолимо движется вперед, оставляя в прошлом важные события. Одно из них — образование 28 апреля 1994 года Конституционного суда как органа, призванного обеспечивать верховенство Конституции как в законодательстве, так и в правоприменительной деятельности.*

*Накануне этой даты "Народная Воля" побеседовала с **Михаилом Пастуховым**, который был одним из судей Конституционного суда, а после ноябрьского референдума 1996 года был освобожден от должности президентским указом.*

## Кто есть ху?

**— Михаил Иванович, кто они — члены первого состава Конституционного суда?**

— Для начала я назову первых девять судей КС: Валерий Гурьевич Тихиня, Валерий Алексеевич Фадеев, Валентина Васильевна Подгруша, Николай Михайлович Середа, Григорий Алексеевич Василевич, Ксения Ивановна Кеник, Римма Ивановна Филипчик, Станислав Иванович Тишкевич и я.

Самым именитым юристом был, конечно, Тихиня. Он многое прошел. Поработал в органах прокуратуры, затем перешел на преподавательскую работу в БГУ. Занимал должность декана юрфака, проректора БГУ. Министр юстиции, депутат Верховного Совета, секретарь КПБ. По всей видимости, он был кандидатом от партийной номенклатуры. После избрания президентом А.Лукашенко ситуация изменилась. Однако статус Тихини оставался самым высоким среди судей КС.



Первый состав Конституционного суда.

Валерий Фадеев пришел из юридической службы Совета министров и был не менее авторитетным профессионалом. На мой взгляд, он был наиболее квалифицированным юристом. Универсальным юристом была и Валентина Подгруша. Поработав заместителем министра юстиции, она хорошо ориентировалась в нашем законодательстве.

Григорий Василевич ранее работал в юридическом отделе Секретариата Верховного Совета. Изначально имел много амбиций и часто высказывал особую позицию. Эта позиция, как правило, соответствовала интересам президентской власти, но по существу не укладывалась в конституционное поле.

Бывший генерал МВД, депутат Верховного Совета Николай Середа пришел в КС, как мне кажется, почивать на лаврах. Однако сложные испытания, выпавшие на долю КС, заставили его принимать принципиальные решения.

Что касается Ксении Кеник и Риммы Филипчик, то они были направлены в КС из судебной системы. В скором времени проявился интерес, которому они служили.

Станислав Тишкевич работал в прокуратуре, затем перешел на преподавательскую работу в Академию МВД. Он был успешным юристом с большими перспективами. Мы с ним сошлись больше всех: и по возрасту, и по взглядам.

О себе могу сказать, что пришел в КС с должности заместителя начальника научно-исследовательского отдела Института национальной безопасности КГБ Беларуси. К этому времени я защитил докторскую диссертацию, стал заслуженным юристом Республики Беларусь. Вместе с Д.П.Булаховым участвовал в подготовке законопроекта о Конституционном суде, за что, собственно, и был рекомендован в состав КС.

В конце мая 1996 года Верховный Совет 13-го созыва доизбрал в состав КС двух недостающих судей. Ими стали преподаватели юрфака БГУ Александр Евгеньевич Вашкевич и Михаил Филиппович Чудаков.

## Первые шаги

**— С чего начиналась история Конституционного суда?**

— С организационного собрания новоявленных судей. На нем обсуждался вопрос об избрании руководства Конституционного суда. Поскольку по Конституции кандидатуру председателя Конституционного суда вносил президент (которого тогда еще не было), то ограничились избранием и.о. председателя. На эту должность был избран Тихиня, а его заместителем стал Фадеев.

Еще несколько месяцев ушло на поиск подходящего здания, его ремонт, заказ и завоз мебели, набор персонала. Только в сентябре 1994 года Конституционный суд рассмотрел первое дело. Оно касалось проверки норм Кодекса законов о труде, которые предусматривали возможность прекращения трудовых отношений в связи с достижением работником пенсионного возраста. Суд признал, что такие нормы противоречат Конституции и международно-правовым обязательствам Республики Беларусь.

Потом рассматривались и другие дела. Все шло хорошо до тех пор, пока предметом проверки не стали президентские указы. Как показала практика, они нередко нарушали Конституцию, в том числе права и свободы граждан. После признания нескольких указов неконституционными КС оказался в сфере особого внимания со стороны президентских структур. Дело дошло до того, что был поставлен вопрос об отставке председателя Конституционного суда. Однако судьи после встречи с А.Лукашенко не дали согласия на замену Тихини. После этого между Конституционным судом и А.Лукашенко начался период "холодной войны", который продолжался вплоть до референдума 1996 года.

**— Конечно, много интересного было в истории первого состава Суда, но я предлагаю остановиться на деле о проверке конституционности вопросов, вынесенных на ноябрьский референдум 1996 года. Почему Суд прямо не запретил выносить на голосование так называемые поправки в Конституцию?**

— Принятие решения от 4 ноября 1996 года о рекомендательном характере голосования по вопросу о внесении изменений и дополнений в Конституцию далось нелегко. К этому времени состав КС разделился на тех, кто "за президента", и тех, кто "за закон". Указание на решение КС содержалось в примечании бюллетеня для голосования.

**— Тем не менее решение КС не смогло предотвратить проведение референдума и введение в действие "президентской" редакции Конституции.**

— К сожалению, да. Но за это должны отвечать те, кто организовывал референдум, подводил его итоги, а потом и принимал окончательное решение.

## Дело «об импичменте»

**— Дальше было так называемое дело об импичменте. Как оно начиналось и как проходило?**

— 19 ноября 1996 года в Конституционный суд был передан пакет с предложением группы депутатов Верховного Совета об инициировании процедуры отрешения от должности (импичменте) президента Лукашенко в связи с нарушением им Конституции. В скором времени на прием к Тихине пришел его "давний друг". После беседы с ним Тихиня направился в резиденцию президента. Вернувшись оттуда, он собрал судей и сообщил, что встречался с президентом и от его имени пригласил судей на встречу. Большинство судей отказались от приглашения, понимая, что речь идет о заключении "сделки". Тогда председатель Конституционного суда пошел один. Вернувшись, сообщил, что пообещал президенту не назначать дело к рассмотрению раньше 22 ноября. На следующий день фамилии депутатов-подписантов оказались в Администрации президента. Как и следовало ожидать, с ними началась "разъяснительная работа". В результате более 10 депутатов отказались от своих подписей под обращением в Конституционный суд.

**— Накануне рассмотрения дела в Минске высадился "десант российских миротворцев" в составе Черномырдина, Селезнева и Строева. Как они повлияли на ситуацию?**

— Действительно, это был переломный момент ноябрьского кризиса 1996 года. Хотели как лучше, а получилось как всегда. Тогда, в ночь с 21 на 22 ноября, при молчаливом содействии "миротворцев" Лукашенко, Шарецкий и Тихиня подписали так называемое соглашение об урегулировании конституционного кризиса в Беларуси. Предполагалось создание конституционной комиссии, которая должна была учесть изменения и дополнения в Конституцию, принятые на референдуме.

Однако утром планы одного из "подписантов" поменялись. На заседании Верховного Совета президентская фракция во главе с В.Коноплевым открыто выступила против утверждения "ночного соглашения". В результате для принятия решения не хватило нескольких голосов. После этого Лукашенко отказался выполнять свою часть обязательств (не выносить "поправки" в Конституцию на обязательный референдум).

На мой взгляд, подписание "ночного соглашения" самым негативным образом сказалось на судьбе дела об импичменте. Все его участники, в том числе представители президента и Верховного Совета, пришли в назначенное время. Судьи также были готовы к рассмотрению. Я был судьей-докладчиком по этому делу и должен был доложить о собранных материалах. Но незадолго до процесса Тихиня пригласил судей к себе в кабинет и объявил, что в связи с подписанием "документа о мире" рассмотрение дела откладывается.

Дело не было начато и после обеда. На совещании судей Тихиня стал настаивать на прекращении дела, однако для принятия решения не хватило голосов. Тогда заседание было назначено на субботу, 23 ноября. И это заседание окончилось безрезультатно.

## Бесславный конец

**— Все знают, как проходил и чем закончился референдум 1996 года. А вот как закончилось дело об импичменте? И какой была ваша позиция?**

— Мне представляется, что дело закончилось позорно. На заседании 26 ноября Конституционный суд по предложению Тихини принял решение о его прекращении. Формальной причиной послужило то, что некоторые депутаты отозвали свои подписи, и в результате их оказалось меньше 70.

Как судья-докладчик я выступил против такого решения и в знак протеста написал особое мнение. В нем я указал, что отказ депутатов от подписей носил вынужденный характер. Кроме того, решение о прекращении дела было принято вне рамок судебной процедуры. Тем самым Суд прекратил дело без законных к тому оснований.

**— Как закончилась история первого состава КС?**

— После прекращения дела об импичменте судьям стало ясно, что надо собирать вещи. Из Администрации президента поступила информация о возможности отставки судей с выплатой полугодового содержания. Для этого достаточно было написать прошение на имя А.Г.Лукашенко. Судьи, которые чувствовали себя неугодными "новой-старой" власти, так и поступили. В то же время судьи, занявшие "правильную" позицию по делу о проверке конституционности вопросов, выносимых на референдум 1996 года и по делу об импичменте (Г.Василевич, К.Кеник, В.Подгруша, Р.Филипчик), продолжали тихонько сидеть в своих креслах.

Я написал заявление об отставке на имя председателя Верховного Совета С.Шарецкого как спикера легитимного парламента. В нем я объяснил, что в условиях незаконного введения новой редакции Конституции не считаю возможным продолжать обязанности члена Конституционного суда и просил временно приостановить мои полномочия. Это заявление было принято к сведению на заседании правомочного состава Президиума Верховного Совета 13-го созыва, который продолжал свою деятельность.

**— Что было дальше?**

— Неопределенное положение с моим статусом сохранялось до второй половины января 1997 года. Я ходил на работу, чтобы не быть уволенным за прогул. Правда, оставшиеся судьи, в том числе назначенный президентским указом и.о.председателя Суда Г.Василевич, меня не замечали и не беспокоили (а ведь в начале работы мы были, казалось, друзьями!). Только однажды помощник Василевича предложил написать заявление об отставке на имя А.Лукашенко. Я отказался это сделать, что предопределило мою судьбу. 23 января 1997 года указом Лукашенко я был освобожден от должности с формулировкой "в связи с окончанием срока полномочий судьи". Причем без выплаты какого-либо пособия и даже начисленной зарплаты. Совсем как в сталинские времена.

## Последний из могикан

**— Не жалеете о своем поступке?**

— Тогда я не мог представить, что темная полоса растянется на столько лет, что придется так дорого (здоровьем и временем) заплатить за свою позицию. Но все это время меня согревала и согревает мысль, что я не изменил словам присяги и сохранил верность Конституции и белорусскому народу.

В условиях беззакония, которое началось после референдума 1996 года, я остался единственным легитимным судьей Беларуси. Меня избирал Верховный Совет 12-го созыва на 11 лет, и мои полномочия должны были окончиться только в 2005 году. Я честно выполнял свой долг судьи, и не было никаких оснований освобождать меня от должности. Я убежден в своей правоте и требую от белорусского государства восстановить меня в должности и выплатить соответствующую компенсацию.

**— Помните день, когда вас уволили?**

— Работник отдела кадров показала мне текст указа и сказала, что меня приказали уволить. Я знал, откуда ветер дует, и зашел в кабинет председателя Суда, где разместился Г.Василевич. Он развел руками и сказал, что это указание "сверху".

В тот же день мне вернули трудовую книжку с приказом Василевича об освобождении меня от должности. Получается, что меня уволил мой бывший коллега по Суду. Причем по основанию, которого вообще нет в законодательстве. Мне не выплатили положенного по закону выходного пособия. Другим судьям, которые написали А.Лукашенко прошение об отставке, выплатили, а мне почему-то нет. На каком основании? Да просто потому, что я занимал принципиальную позицию...

Еще большим было мое удивление, когда я пришел в бухгалтерию за расчетом. За 23 дня работы мне не начислили зарплаты. Точнее, начислили, но не выплатили. Не положено! Вот так "новая" власть поступала с теми, кто отказался ей служить.

Кроме статуса безработного у меня были дипломы доктора юридических наук и профессора права. Уезжать в Москву мне не хотелось, так как я полагал, что ситуация в Беларуси изменится к лучшему. Проситься на прежнюю военную службу тоже не хотел, поскольку надо было отказаться от своих убеждений. Можно было пойти в адвокаты, но там я долго не проработал бы, так как пришлось бы браться за дела оппонентов власти и в итоге потерять лицензию. В результате я выбрал преподавательскую работу. Она позволяла мне продолжать деятельность в "команде Шарецкого".

Активная жизненная позиция, а также публикации в независимой прессе предопределили еще одну мою работу. Председатель Белорусской ассоциации журналистов Жанна Литвина летом 1997 года предложила мне взяться за организацию Центра правовой защиты СМИ. Это на долгие годы связало меня с журналистами.

**— Знаю, вы искали справедливости в ООН...**

— Да. Я обращался в Комитет ООН по правам человека. Жаловался на отказ в правосудии и на то, что меня незаконно освободили от должности судьи. Ожидать пришлось долго. Потом началась переписка с белорусским МИД (оно отвечает за выполнение международных обязательств страны). В итоге прошло пять (!) лет. Только в августе 2003 года получил решение с письмом Комитета ООН. Мои требования были признаны обоснованными: власти Беларуси обязывались восстановить меня в правах и выплатить компенсацию. На выполнение решения отводилось 90 дней. Но судебную мантию мне никто не вернул. Я снова пожаловался в Комитет ООН. Оттуда сообщили, что направили повторное письмо с решением. Но белорусские власти снова "не поняли", чего от них хотят. Позднее выяснилось, что таким же образом они поступают и с другими решениями Комитета ООН в отношении граждан Беларуси. Сейчас таких борцов за свои права свыше 50 человек. Мы собираемся объединиться и вместе бороться за выполнение белорусским государством своих международных обязательств. Ведь когда-то эти решения надо будет исполнять...

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ЗА РУЛЁМ

## На Радаўніцу на МКАД знізяць хуткасць

*29 красавіка будзе ўскладнены рух на 14-м кіламетры МКАД. Як паведамілі ў ДАІ Заводскага раёна, на працягу ўсяго дня тут будзе арганізаваны часовы наземны пешаходны пераход, які вядзе да Чыжоўскіх могілак.*

*— Хуткасць будзе зніжана з дапамогай часовых знакаў, — дадаюць інспектары ДАІ. — Максімальна дазволеная хуткасць у гэты дзень на згаданым участку — 50 км/г. За выкананнем правілаў будуць сачыць супрацоўнікі ДАІ. Яны ж пракантралююць уезд на тэрыторыю могілак.*

Таксама на МКАД у раёне могілак будзе дазволена стаянка на абочыне (усяго ёсць месцы для трох тысяч аўтамабіляў). Магчымы абмежаванні пры руху па крайняй правай паласе.

З-за магчымага павелічэння патоку машын у Дзяржаўтаінспекцыі рэкамендуюць аўтамабілістам наведаць месцы пахавання ў выхадныя, а ў Радаўніцу скарыстацца грамадскім транспартам.

ТЫМ ЧАСАМ

## Праспект Дзяржынскага адкрыюць 1 мая

Амаль праз шэсць гадоў пасля закрыцця рух па сталічным праспекце будзе аднаўлены цалкам.

ЗА ПАРТАЙ

## Абітурыенты, на старт!

*Міністэрства адукацыі вызначыла тэрміны правядзення ўступнай кампаніі ва ўніверсітэты і інстытуты.*

Прыём дакументаў на бюджэтныя месцы будзе праводзіцца *з 8 па 12 ліпеня*, на платныя — *з 8 ліпеня па 2 жніўня*. Для завочнікаў ВНУ сельскагаспадарчага накірунку свае тэрміны — з 1 па 30 лістапада.

ВНУ сілавога блока — Акадэмія МУС, Магілёўскі вышэйшы каледж МУС, Камандна-інжынерны інстытут МНС, Гомельскі інжынерны інстытут МНС, Інстытут памежнай службы — будуць прымаць дакументы *з 8 па 28 ліпеня*. Гэтыя ж тэрміны вызначаны для Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Уступныя выпрабаванні ў сілавых ВНУ пройдуць *з 13 па 16 ліпеня*, у творчых — *з 13 па 22 ліпеня*. Для ўсіх астатніх — *з 13 па 18 ліпеня* (завочная форма сельгаспрофілю — з 1 па 20 снежня).

МАРШРУТЫ

## У Крым — лепей праз Маскву

*Тым, хто ляціць у Крым, лепш скарыстацца маршрутам з пасадкай у Маскве, лічыць міністр транспарту **Анатоль Сівак.***

Паводле яго слоў, у Мінска ёсць авіязносіны з Крымам, але толькі праз Маскву.

*"На сёння мы не прадаем квіткі на тыя рэйсы, якія былі ў раскладзе з чэрвеня па жнівень. Гэта выклікана тым, што эканоміка гэтых рэйсаў не вельмі добрая. Расія мае намер дацыраваць авіяперавозкі ў Крым. Калі нам сёння ажыццяўляць авіяперавозкі ў Крым, гэта трэба ўлічваць. І яшчэ, улічваючы пэўныя пытанні з прасторай, нам трэба будзе ляцець праз Растоўскую вобласць, што павялічвае выдаткі кампаній",* — цытуе чыноўніка БелаПАН.

Паводле разлікаў Мінтранса, выкарыстоўваць расійскія датацыі і ляцець праз Маскву ***на 50 еўра танней***, чым ляцець беларускім самалётам праз Растоўскую вобласць.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

## Без Шекспира

На английском языке Уильям Шекспир первый по цитируемости. После Бога, конечно. Позавчера мир отметил 450 лет со дня рождения великого драматурга.

Мир, но не театральный Минск. Ни один столичный театр не подготовился к этой дате, ни одного нового спектакля не выпущено по его пьесам в этом сезоне вообще, не то что именно в апреле, специально к дате. Правда, Республиканский театр белорусской драматургии год назад представил публике "Бегчы з Эльсінора" драматурга **Виктора Понизова** — но это "по Шекспиру", новое прочтение "Гамлета". А собственно пьесы английского классика идут сейчас только в двух минских театрах — Драматическом театре Белорусской армии и Национальном академическом драматическом театре им.Горького. Постановки старые, восьмилетней давности.

В общем, не уважили белорусы Уильяма. Театры равнодушны к его пьесам, и это говорит о многом. Например, о нашей провинциальности. Мы оторваны от Европы, от ее культурных юбилеев, памятных дат и великих имен.

Но Европе-то — что? Шекспира и без Беларуси обожают миллионы. Например, в театрах мира "Макбет" ставят (или собираются поставить) каждые четыре часа. Каким образом это подсчитывается — понять сложно, но зато как впечатляет! Сегодня Шекспир в интернете — это более 15 миллионов страниц про него только в одной поисковой системе Google. **Элвис Пресли**, к примеру, собрал только 2,7 миллиона.

Шекспир ввел в английский язык около 3200 новых слов, сообщает Оксфордский словарь. Судя по произведениям Шекспира, объем его активного лексикона составлял примерно 25 тысяч слов. Для сравнения: у самых философски образованных и литературно одаренных современников Шекспира "в ходу" было около 9—10 тысяч слов, а современный англичанин с высшим образованием укладывается сейчас вообще в 4 тысячи.

Великий Шекспир — это великая загадка. Первые сомнения по поводу авторства его работ начали возникать примерно через 230 лет после смерти драматурга. Рукописи драматурга до нас не дошли. Ни одна пьеса не была отдана в печать самим автором. Подписей сохранилось всего шесть, и то на деловых бумагах. Да и этот еле читаемый автограф каждый раз выглядит иначе. Кстати, мы даже не знаем, как правильно пишется имя прославленного англичанина. Сакспер, Шакоспер, Шафтспер, Шакстаф, Чакспер... Только в стратфордских документах найдены двадцать вариантов. Звали ли гения Шекспиром, графом Ретлендом или Оксфордом, или даже Елизаветой I — узнать доподлинно нам вряд ли придется. К дате рождения многие тоже относятся скептически. Неизменным на протяжении веков остается страсть мирового театра к этим непревзойденным во всех отношениях творениям.

Были времена, когда и минские постановки пьес Шекспира привлекали внимание Европы. В начале 1950-х годов в театр им.Горького приехал работать талантливый режиссер **Василий Федоров**, воспитанник школы Мейерхольда. Он поставил "Короля Лира" в главной роли с **Александром Кистовым**, народным артистом БССР. По воспоминаниям современников, посмотреть эту пьесу специально из Великобритании приезжал известный английский критик. Представляете: разгар холодной войны, Минск, едва встающий из руин, вообще довольно суровая атмосфера в стране — и появление такого, с позволения сказать, интуриста-театроведа в городе. Удивительный факт! Кстати, это был 1954 год, и мир тогда тоже праздновал день рождения Шекспира. Правда, дата была не такая "круглая", как сейчас, всего 390 лет. Но шекспировские премьеры готовились, не сравнить с сегодняшним днем.

Обо всем этом лично мне рассказывала заслуженная артистка **Олимпиада Шах-Парон** (ныне покойная), которая играла в том спектакле одну из дочерей Короля Лира. Правда, фамилию критика она не вспомнила. Но вот в минских архивах хранятся экземпляры английского журнала, где главный режиссер Лондонского художественного театра **Джон Ферналд** пишет о белорусском спектакле. Правда, он видел нашего "Лира" не в Минске, а в Ленинграде, где Русский театр был на гастролях. Об актерской игре Д.Ферналд написал восторженно: *"Я видел много, много "Лиров" и всегда был разочарован, за исключением двух последних спектаклей. Первый случай, когда эту роль исполнял английский актер Дональд Уолфит, второй случай был в Ленинграде, когда я видел исполнение этой же роли господином Кистовым... Какой у него изумительный голос! Большинство великих актеров обладали глубокими, богатыми голосами. Именно такой голос у господина Кистова".*

Может быть, Д.Ферналд и тот господин, который приезжал в Минск, — один и тот же человек?

А когда великого Кистова провожали в последний путь, то гроб народного артиста БССР укрыли той самой пурпурной мантией из "Лира", в которой он столько раз появлялся на сцене Русского театра. Артист покидал нашу землю королем. Это уже рассказывал мне народный артист, режиссер Борис Иванович Луценко.

Борис Иванович тоже ставил Шекспира — пьесу "Макбет", в которой блестяще играли народные артисты СССР **Александра Климова и Ростислав Янковский.** Более 15 лет в репертуаре театра значилась эта легендарная постановка. Она познала успех на Шекспировском фестивале в ФРГ, восторженный прием московской публики во время гастролей театра в Москве.

А каким шекспировским спектаклем мы можем гордиться сегодня? Увы, "пришли иные времена, взошли иные имена". Теперь взоры многих театралов прикованы не к драматическим театрам столицы, а к областному кукольному. Конкретнее, к Гродненскому театру кукол и его сильнейшему режиссеру **Олегу Жюгжде**. Он собирает премии по миру, а что еще важнее — полные залы публики дома. 450-летие знаменитого драматурга там отметят недельной "Шекспириадой". Что ж, до западной границы им рукой подать, и, видно, это не только метафора.

ДА ЎВАГІ!

## Без гарачай вады на два тыдні

Гарачую ваду ў Мінску пачнуць адключаць толькі пасля заканчэння чэмпіянату свету па хакеі — з 26 мая пачнецца паэтапнае адключэнне гарачага водазабеспячэння.

Час спынення падачы гарачай вады будзе максімальна скарочаны і ў выпадку паспяховых выпрабаванняў трубаправодаў цеплавых сетак і адсутнасці дэфектаў, якія патрабуюць выканання незапланаваных рамонтна-аднаўленчых работ, не будзе перавышаць 14 сутак.

У прэс-службе адзначылі, што ў час выпрабаванняў магчымы пашкоджанні цеплаправодаў.

Дадатковую інфармацыю аб канкрэтных тэрмінах уключэння гарачага водазабеспячэння пасля правядзення прафілактычных рамонтных работ можна атрымаць у адпаведных КУП ЖЭУ.

КРЫМІНАЛ

## Коней паблытаў...

*Былы гендырэктар Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту **Віктар Міхадзюк** кампенсаваў дзяржаве шкоду ў 600 мільёнаў рублёў.*

Да такой высновы прыйшлі ў Следчым камітэце. Былога чыноўніка абвінавачваюць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, якія пацягнулі за сабой цяжкія наступствы. Нагадаем, што ў верасні 2012 года экс-дырэктар цэнтра заключыў дамову на набыццё відэаапаратуры, кошт якой у два разы перавышаў яе кошт у першага пастаўшчыка такіх тавараў у Беларусь. Экс-дырэктар цалкам прызнаў сваю віну і выплаціў шкоду. Не выключана, што цяпер ён пазбегне накіравання за краты.

